*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 50 (1097) 12 СНЕЖНЯ 2012 г.**

## Вуліца імя Ефрасінні Полацкай з'явілася ў Слоніме

У Слоніме новую вуліцу назвалі ў гонар Ефрасінні Полацкай. Новая вуліца ў адным з самых буйных і заселеных мікрараёнаў горада з'явілася яшчэ летам.



Тапанімічная камісія Слонімскага раённага выканкаму прапанавала назваць вуліцу ў гонар 10-га ліпеня, бо ў гэты дзень Слонім быў вызвалены ад немцаў у гады Другой Сусветнай вайны. Але, як заўважае слонімскі публіцыст і краязнавец Сяргей Чыгрын, меркаванне мясцовых жыхароў адносна назвы вуліцы было іншым:

- Я напісаў адкрыты ліст на імя старшыні райвыканкаму, выклаў свае прапановы. Сярод іх была прапанова надаць вуліцы імя Ефрасінні Полацкай - імя нашай беларускай святой палачанкі, тым больш, што побач вуліца Францішка Скарыны. Два асветнікі - гэта, як кажуць "Бог даў", каб гэтыя дзве вуліцы былі побач.

Сяргей Чыгрын адзначае, што назвы вуліц - гэта вялікая беларуская праблема. Фактычна паўсюдна можна сустрэць вуліцы, названыя ў гонар асобаў, падзей, якія не мелі ніякага дачынення ні да канкрэтнага рэгіёну, ні да Беларусі, або дзейнасць якіх нават была шкоднай:

- У нас вельмі шмат вуліц назвы якіх не маюць дачынення не толькі да Слоніма, але і да Беларусі, сярод іх вуліцы Катоўскага, Мічурына, Войкава і г.д. Шмат такіх вуліц, якім трэба вяртаць старыя назвы, альбо перайменоўваць іх у гонар нашых славутых землякоў.

Паводле С. Чыгрына намаганнямі слонімцаў раней у горадзе вуліца Энгельса атрымала старую назву Оперная, менавіта тут знаходзіцца знакаміты ў свой час Тэатр Агінскага. Плошча Горкага стала Плошчай Сапегі, і гэта не адзіныя такія прыклады.

***Яна Запольская,***
*Беларускае Радыё Рацыя*
Фота gs.by.

## 160 гадоў з дня нараджэння Вандаліна Шукевіча

**Вандалін Аляксандравіч Шукевіч** (10.12.1852-1.19.1919) нарадзіўся і жыў у вёсцы Нача Лідскага павету (сучасны Воранаўскі раён). Атрымаўшы пачатковую адукацыю дома, працягваў вучобу ў Вільні. Пад уплывам лекцый прафесара Іосіфа Юндзіла зацікавіўся праблемамі антрапалогіі, старажытнай гісторыі, заалогіі. У1872 годзе малады Шукевіч вяртаецца ў Начу. Спачатку арганізуе гурток маладых гаспадароў, а затым пераключаецца на заняткі археалогіяй і этнаграфіяй. Аб'ектамі вывучэння становяцца грунтовыя і курганныя пахаванні ля вёсак Нача, Пузелі, Апонаўцы, Тоўцішкі, Сабакінцы, Дварчаны і іншых, што знаходзяцца на тэрыторыі сучасных Воранаўскага і Шчучынскага раёнаў Гарадзенскай вобласці. Ён першы з беларускіх археолагаў раскапаў дзесяткі курганоў і каменных магіл тыпу жальнікаў XIII-XIV стст. Затым поле яго дзейнасці пашыраецца. Вучоны даследуе помнікі археалогіі ў Віцебскай губерні: каля Віцебска, Лепеля, возера Дрысвяты, у Троцкім павеце (суч. Літва). З часам ён назбіраў вялікую калекцыю археалагічных і нумізматычных прадметаў, матэрыялаў антрапалогіі, якія выклікалі вялікую цікавасць у тагачаснага вучонага свету.



Большая частка знойдзенага ім трапіць у музеі Варшавы, Вільні, Кракава, Масквы і Санкт-Пецярбурга. Шукевіч піша такія гістарычныя працы, як "Каменныя курганы ў Лідскім павеце", "Двары, замкі, палацы", "Старажытныя каралеўскія лясы ў Літве", "Нарысы аб Белай Русі" і інш. Акрамя таго, даследчык займаецца збіраннем і апрацоўкай вуснай народнай творчасці, выдае некалькі прац фальклорна-этнаграфічнага характару.

Найбольш вядомыя з іх "Народныя вераванні і абрады (забабоны, прымхі, прадказанні і інш.), сабраныя ў Віленскай губерні", "Некаторыя вераванні, прымхі і забабоны нашага народа, легенды і паданні", "Старажытныя лекавыя сродкі". Вучонага выбіраюць членам-карэспандэнтам Кракаўскай акадэміі навук. Памёр В. Шукевіч напрыканцы 1919 года і быў пахаваны ў сямейнай капліцы непадалёку ад роднай сядзібы. На сёння капліца адрэстаўравана і падтрымліваецца ў поўным парадку

Вандалін Шукевіч у пачатку XX стагоддзя, калі на павестку дня паўстала пытанне беларускага нацыянальнага адраджэння, падтрымаў гэтыя працэсы і насуперак польскай большасці даказваў выгаду для Польшчы сяброўскіх адносін паміж польскім і беларускім нацыянальнымі рухамі.

## Адзначылі 15-годдзе часопіса "Лідскі летапісец"

8 снежня ў Менскуў сядзібе ТБМ прайшла творчая сустрэча з рэдактарам краязнаўчага, гістарычна-літаратурнага часопіса "Лідскі летапісец" Станіславам Суднікам з нагоды 15-годдзя часопіса. "Лідскі летапісец" выходзіць у Лідзе з верасня 1997 года. Заснавальнік і адзін з асноўных аўтараў - старшы навуковы супрацоўнік Лідскага музея, кандыдат геаграфічных навук Валеры Сліўкін. На часопіс можна падпісацца цераз "Белпошту", яго можна купіць у Лідзе ў шапіках "Саюздруку", у шапіку музея, электронную версію можна набыць у "Белкіёску" (belkiosk.by), прачытаць на сайтах pawet.net, kamunikat.org.




Выйшла 58 нумароў, 59-ты - у друкарні, 60-ты падрыхтаваны да друку. Часопіс выходзіць накладам 300 асобнікаў. Фармат А-4. Аб'ём каля 60 старонак. Усяго за 15 гадоў апублікавана звыш 3000 старонак краязнаўчай інфармацыі. Фактычна створана новае сучаснае краязнаўства Лідчыны.

На сустрэчы ў Менску прысутнічалі самыя розныя людзі, колішнія лідзяне, аматары гісторыі і краязнаўства. Станіслаў Суднік распавёў пра асноўныя тэндэнцыі ў краязнаўчым руху на Лідчыне, пра аўтараў (Л. Лаўрэш, М. Дзікевіч і інш.), адказаў на пытанні. У прыватнасці, на пытанне, што трэба зрабіць, каб у нас стала больш беларускасці, С. Суднік адказаў:

- Трэба, каб кожны горад Беларусі, як Ліда, пачынаўся крыжам Ефрасінні Полацкай і ім жа заканчваўся.

"Лідскі летапісец" чакае матэрыялаў пра Ліду ад усіх, хто любіць наш край.

***Наш кар.***

ISSN 2073-7033



## 100 гадоў з дня нараджэння Аляксея Русецкага



**Русецкі Аляксей Сцяпанавіч** (1912 - 2000)

Нарадзіўся 4 снежня 1912 года ў сяле Студзянец Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Сапраўднае прозвішча - Бурдзялёў. Пасля заканчэння Маскоўскага зааветэрынарнага інстытута (1935) працаваў ва ўпраўленні саўгасаў у Мінусінску, у бактэрыялагічных лабараторыях Масквы і Менска. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1947 года доўгі час працаваў літаратурным кансультантам СП БССР (1947-1952, 1960-1967), у часопісе "Беларусь" быў загадчыкам аддзела публіцыстыкі і рэдактарам аддзела культуры і літаратуры (1952-1960), а ў часопісе "Полымя" - намеснікам галоўнага рэдактара (1967-1973). Працаваў старшым рэдактарам рэдакцыі часопіса "Беларусь" (1973-1980).

З першымі вершамі ў друку выступіў у 1935 годзе. Выдаў зборнікі паэзіі "У заўтрашні свет" (1951), "Святло акон тваіх" (1959), "Усход і захад" (1962), "Яго вялікасць" (1965), "Служба святла" (1967), "Вершы і паэма" (1969), "Зямля гаворыць зорам" (паэмы і вершы, 1971), "Два колеры жыцця" (1973), "Позірк" (1977), "Паэмы" (1979), "Крокі сэрца" (1980), "Хвала жыццю" (1987) і іншыя. У 1982 г. выйшлі "Выбраныя творы" ў 2 тамах.

Паэт, перакладчык, член Саюза пісьменнікаў Беларусі (1947), Заслужаны работнік культуры Беларусі (1983).

За кнігу вершаў "Крокі сэрца" прысуджана Літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова ў 1981 годзе. Узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі і медалямі.

№ 50 (1097) 12 СНЕЖНЯ 2012 г. Наша слова

# Нам засталася спадчына

Бягучы год асаблівы ў літаратурным асяроддзі Беларусі: сёлета мы адзначылі 130-годдзе з дня нараджэння класікаў нацыянальнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, 100-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Шмат творчых сустрэч і вечарын з гэтай нагоды прайшло і ў Магілёве. Але ж гэтая - сустрэча з унучкай Якуба Коласа Марыяй Міцкевіч і сваячніцай Соф'яй Міцкевіч - была асаблівай.





Прысутным - а вечарыну наведала каля сотні магілёўцаў - прадставілася сапраўды ўнікальная магчымасць весці гаворку з людзьмі, якія на свае вочы бачылі паэта або ўсё жыццё прысвяцілі вывучэнню яго творчасці. Дзякуючы намаганням арганізатараў сустрэча атрымалася вельмі чулай і ўзнёслай, таму што яна ўключала ў сябе ўспаміны, вершы Коласа, кінахроніку і беларускія народныя песні.

А пачыналася ўсё з музыкі цымбал, якая сустракала прыхільнікаў творчасці беларускага песняра пры ўваходзе ў актавую залу Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу, які разам з Магілёўскай арганізацыяй Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны зладзіў імпрэзу. Кніжная выстава, якую падрыхтавала Цэнтральная гарадская бібліятэка імя Карла Маркса, прапанавала пагартаць з дзяцінства вядомыя кнігі Коласа, нагадаць знакамітыя радочкі вершаў, пазнаёміцца з найноўшымі выданнямі твораў беларускага класіка.

Унучка паэта распавяла пра дзядулю ў жыцці праз успаміны бацькі, Міхася Канстанцінавіча, якому Колас прысвяціў "Міхасёвыя прыгоды", пра адносіны паэта да сваякоў і простых людзей. Марыя Міхайлаўна, нягледзячы на тое, што скончыла матэматычны факультэт БДУ, усё жыццё займаецца літаратурнай дзейнасцю: піша артыкулы пра знакамітага дзядулю і яго творчасць, з'яўляецца даследчыцай яго жыццёвага шляху.

Соф'я Пятроўна - жонка ўнука Якуба Коласа - супрацоўнік музея беларускага песняра на Стаўбцоўшчыне. Яна добра знаёмая ўсім, хто бывае ў Акіньчыцах, Смольні, Мікалаеўшчыне і Альбуці - родных мясцінах паэта. Спадарыня Соф'я праводзіць экскурсіі ў сядзібах музея, арганізуе літаратурныя чытанні, сама вельмі пранікнёна дэкламуе вершы свайго знакамітага сваяка.

Дарагія госці былі на вечарыне апавядальнікамі і слухачамі адначасова. Магілёўцы з нагоды сустрэчы падрыхтавалі вельмі шчыры канцэрт: igралі музыку, пелі любімыя народныя песні, у якіх Якуб Колас чэрпаў натхненне, жыццёвую сілу і мудрасць, чыталі ягоныя вершы, выконвалі песні на словы паэта. А пасля афіцыйнага заканчэння сустрэчы яе шаноўныя госці яшчэ доўга падпісвалі на памяць кнігі шматлікім аматарам творчасці нашага геніяльнага пісьменніка.

***Галіна Хітрыкава,***
***Юрась Каласоўскі,***
*Магілёў.*

# Транспарт у Менску: па-беларуску і па-людску

Калі садзішся ў Менску ў аўтобус, тралейбус, трамвай, альбо ў вагоны метро ці прыгараднага электрацягніка душа радуецца.

Адразу прыходзіць да цябе задавальненне. Ты дома. У роднай Беларусі. Я не ведаю, што адчуваюць іншыя пасажыры, але я радуюся. Радуюся з таго, што пасля 200-гадовай палітыкі русіфікацыі мы, беларусы, яшчэ жывём. Маем сваю, хоць і кволую, дзяржаўнасць ды вось і транспарт працуе на беларускай мове: робяцца аб'явы прыпынкаў і бягучая інфармацыя электронным радком ідзе таксама па-беларуску. І адразу ўспамінаю, што і прагноз надвор'я ў Менску па нумары: 195 дае адказ па-беларуску.

На пачатку лістапада Маскоўская лінія Менскага метро падоўжылася на некалькі кіламетраў - прыбавіліся тры станцыі: Грушаўка, Міхалова, Пятроўшчына. Звярніце ўвагу на назвы. Яны не палітычныя, а геаграфічныя, гістарычныя і таму назаўсёды. Радуе вока і афармленне станцый. Маю на ўвазе мастацкае. Яно сучаснае і зроблена па-беларуску. У сувязі з адкрыццём новых замянілі і таблічкі паказальнікаў усіх станцый. Яны зроблены ўсе і ўсюды па-беларуску двума шрыфтамі кірыліцай і прынятай (зацверджанай некалькі гадоў таму) лацінкай.

Зроблена і невялікае выключэнне. На ўваходах ў станцыю метро "Плошча Леніна" надпісы станцый метрапалітэна напісаны па беларуску толькі кірыліцай і па-англійску (лацінка англійская).

Добры пачын менскіх транспартнікаў падае прыклад, як павінна быць на транспарце нашай краіны. Тым часам гэта добры прыклад для ўсёй сферы абслугоўвання насельніцтва ў Беларусі.

***Сымон Барыс.***

# Народ размаўляе з Беларускай чыгункай

Дзяржаўнаму аб'яднанню
"Беларуская чыгунка",
вул. Леніна,17, г. Мінск, 220030,
Рэспубліка Беларусь
Мядзведзева Андрэя Юр'евіча,
вул. Будаўнікоў, д. 16, кв. 6,
г. Рэчыца, Гомельскай вобласці,
Рэспубліка Беларусь

У адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы. Згодна з часткай 3, артыкула 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, кожны мае права выбіраць мову зносін. Паводле артыкула 3 "Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь", грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай, ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.

Звяртаючыся па самыя розныя даведкі да Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка" праз яго сайт www.rw.by, я не магу ўскарыстацца сваім правам выбару адной з дзяржаўных моў зносін, паколькі на сайце адсутнічае інфармацыя на беларускай мове. Акрамя таго, я не маю магчымасці даведацца, напрыклад, расклад руху пасажырскіх альбо прыгарадных цягнікоў на зручнай для мяне дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь, вымушаны ўводзіць назвы патрэбных мне станцый на нязручнай для мяне рускай мове, паколькі форма ўводу назваў станцый адыходу ды прыбыцця не прымае беларускамоўных сімвалаў і назваў чыгуначных станцый (тапонімаў) на беларускай мове. Гэта, у сваю чаргу, з'яўляецца парушэннем артыкула 32 "Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь". Так, напрыклад, пры спробе даведацца расклад руху прыгарадных цягнікоў ад станцыі Калінкавічы да станцыі Рэчыца, я атрымаў ад Вашага сайта адказ наступнага зместу: "Ошибка проверки значений: Прежде чем продолжить, Вам следует исправить следующие ошибки: Станции отправления с названием Калінкавічы не существует. Пожалуйста, исправьте либо введите только первую(ые) букву(ы) нужной станции и попробуйте снова". У сувязі з вышэйпададзеным, прашу Вас разгледзець пытанне стварэння магчымасці карыстацца ўсімі сэрвісамі сайта ДА "Беларуская чыгунка" на абодвух дзяржаўных мовах. Вынікі разгляду майго звароту прашу накіраваць мне на згаданы тут адрас электроннай пошты ў тэрміны, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, альбо змясціць на сайце ДА "Беларуская чыгунка".

Загадзя дзякую.

З павагай Андрэй МЯДЗВЕДЗЕЎ.

---

ОКОГУ 02193

| | |
|---|---|
| МІНІСТЭРСТВА ТРАНСПАРТУ І КАМУНІКАЦЫЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | МИНИСТЕРСТВО ТРАНСПОРТА И КОММУНИКАЦИЙ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ |
| ДЗЯРЖАЎНАЕ АБ'ЯДНАННЕ | ГОСУДАРСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ |
| **БЕЛАРУСКАЯ ЧЫГУНКА** | **БЕЛОРУССКАЯ ЖЕЛЕЗНАЯ ДОРОГА** |
| вул. Леніна, 17, 220030, г. Мінск | ул. Ленина, 17, 220030, г. Минск |
| Тэл. (017) 225 48 60, факс (017) 227 56 48 | Тел. (017) 225 48 60, факс (017) 227 56 48 |
| E-mail: ns@rw.by | E-mail: ns@rw.by |
| Р.р. 3012600090017 філіял 527 «Белжелдор» | Р.с. 3012600090017 филиал 527 «Белжелдор» |
| ААТ «ААБ Беларусбанк» код 254 г. Мінск | ОАО «АСБ Беларусбанк» код 254 г. Минск |
| АКПА 00047792 УНП 100088574 | ОКПО 00047792 УНП 100088574 |

07.06.2012 № 42-27/14-779Н-789/1

На № ________ ад ________

Мядзведзеву А.Ю.
г. Рэчыца,
Гомельскай вобласці
Рэспубліка Беларусь

Паважаны Андрэй Юр'евіч!

Беларуская чыгунка разгледзела Ваш электронны зварот аб беларускамоўнай версіі сайта БЧ.

Згодна Указу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.02.2010 №60 "О мерах по совершенствованию использования национального сегмента сети Интернет" сайты дзяржаўных органаў і арганізацый фарміруюцца на рускай і (альбо) беларускай мовах, а пры неабходнасці на адной ці некалькіх замежных мовах. Дзяржаўныя арганізацыі, якія здзяйсняюць экспарт прадукцыі за межы Рэспублікі Беларусь, дадаткова забяспечваюць фарміраванне моўнай версіі сваіх сайтаў на адной ці некалькіх замежных мовах.

У адпаведнасці з загадам Начальніка Беларускай чыгункі ад 29.11.2010 №446Н карпаратыўны сайт чыгункі мае тры моўныя версіі - рускую, англійскую і нямецкую. Пры гэтым англійская і нямецкая моўныя версіі сайта адрозніваюцца ад рускай па структуры і зместу.

Што тычыцца работы сэрвіса па продажы білетаў праз Інтэрнэт, то Беларуская чыгунка выкарыстоўвае адзіны для дзяржаў СНД даведнік станцый, які ў адпаведнасці з міжгаліновым пагадненнем вядзецца на рускай мове і падтрымліваецца цэнтралізавана Інфармацыйным Вылічальным Цэнтрам чыгуначных адміністрацый (г. Масква).

У выпадку нязгоды з рашэннем, якое прынята па Вашаму звароту, Вы можаце абскардзіць яго ў Міністэрстве транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь па адрасу: г. Мінск, вул. Чычэрына, 21.

З павагай,
Першы намеснік Начальніка Беларускай чыгункі У.Б. Міхайлюк.

# Народ размаўляе з Беларускай чыгункай

Міністэрству транспарту і камунікацый
Рэспублікі Беларусь,
вул. Чычэрына, 21,
г. Мінск, Рэспубліка Беларусь, 220029
Мядзведзева Андрэя Юр'евіча,
вул. Будаўнікоў, д. 16, кв. 6,
г. Рэчыца, Гомельскай вобласці,
Рэспубліка Беларусь

2 чэрвеня 2012 года я паспрабаваў праз сайт Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка" www.rw.by звярнуцца да гэтага Дзяржаўнага аб'яднання, каб даведацца расклад руху прыгарадных цягнікоў ад станцыі Калінкавічы да станцыі Рэчыца. Увёўшы ў адпаведныя палі меню "Маршрут следования" раздзелу "Расписание движения пригородных поездов" назвы станцый на прымальнай для мяне, абранай мной дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь і націснуўшы кнопку "Найти", я атрымаў ад сайту ДА "Беларуская чыгунка" адказ наступнага зместу: "Ошибка проверки значений: Прежде чем продолжить, Вам следует исправить следующие ошибки: Станции отправления с названием Калінкавічы не существует. Пожалуйста, исправьте либо введите только первую(ые) букву(ы) нужной станции и попробуйте снова". Гэтая інфармацыя не адпавядае сапраўднаму становішчу спраў, паколькі ўпэўніца ў наяўнасці на Беларускай чыгунцы станцыі Калінкавічы можна шляхам яе наведвання на Гомельскім аддзяленні згаданага Дзяржаўнага аб'яднання, акрамя таго, яе наяўнасць засведчана на афіцыйных картаграфічных матэрыялах.

Згодна з артыкулам 32 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", у Рэспубліцы Беларусь тапонімы (найменні населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і г.д.) даюцца на беларускай мове.

У адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы. Згодна з часткай 3, артыкула 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, кожны мае права выбіраць мову зносін. Паводле артыкула 3 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай, ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.

У сувязі з тым, што работнікамі Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка" сваімі дзеяннямі дапушчана парушэнне майго права на выбар мовы зносінаў і зваротаў да дзяржаўных органаў, установаў і арганізацый, прадугледжанае Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", мной быў накіраваны электронны зварот да Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка" з просьбай разгледзець пытанне стварэння магчымасці карыстацца ўсімі сэрвісамі сайта ДА "Беларуская чыгунка" на абедзвюх дзяржаўных мовах (копія дадаецца).

7 чэрвеня 2012 года мной быў атрыманы адказ ад Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка" за подпісам першага намесніка начальніка У.Б. Міхайлюка (копія дадаецца). У дадзеным адказе робіцца спасылкі на норму заканадаўства, якая мае меншую юрыдычную сілу, чым згаданыя мной Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і, акрамя таго, не маюць супярэчанняў паміж сабой. У прыватнасці згаданым У.Б. Міхайлюком Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.02.2010 г. № 60 "Аб мерах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт" рэгламентуецца фарміраванне сайтаў дзяржаўных органаў і арганізацый на рускай і (альбо) беларускай мовах, а пры неабходнасці таксама на адной альбо некалькіх замежных мовах. Аднак, гэтая норма не адмяняе нормы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прадугледжанай вышэйзгаданым артыкулам № 50, якая дае права кожнаму выбіраць мову зносін. Таксама норма Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 60 не адмяняе нормы артыкула 3 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", згодна з якою, грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Таксама норма згаданага Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь не супярэчыць пералічаным нормам Канстытуцыі і Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", а дзейнічае паралельна з імі. Адпаведна, у сувязі з тым, што Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 60 прадугледжана фарміраванне сайтаў дзяржаўных арганізацый на рускай і (альбо) беларускай мовах, а Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь яе грамадзянам гарантаванае права выбару адной з дзяржаўных моў, а Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" яе грамадзянам гарантуецца права карыстацца нацыянальнай мовай, то супрацоўнікі Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка" абавязаныя сфарміраваць сайт свайго Дзяржаўнага аб'яднання такім чынам, каб забяспечыць гарантаваныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" правы грамадзян на выбар мовы зносінаў і карыстанне нацыянальнай мовай.

Загад начальніка Беларускай чыгункі ад 29.11.2010 года № 446Н, на які спасылаецца У.Б. Міхайлюк, прадугледжвае стварэнне карпаратыўнага сайту Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка" з парушэннем нормаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона Рэспублікі Беларусь аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, бо пазбаўляе карыстальнікаў сайта магчымасці выбару адной з дзвюх дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь.

Акрамя таго, у адказе першага намесніка начальніка Беларускай чыгункі У.Б. Міхайлюка на мой зварот, змешчаны адказ на пытанне, якое я ў сваім звароце не ставіў. Я ў сваім звароце не закранаў работу сэрвіса па продажы білетаў праз Інтэрнэт. Мяне цікавіў расклад руху прыгарадных цягнікоў фарміравання Беларускай чыгункі, якія ажыццяўляюць рух унутры Рэспублікі Беларусь. Той факт, што першы намеснік начальніка Беларускай чыгункі У.Б. Міхайлюк змясціў у сваім адказе на мой зварот тлумачэнне пытання, якога не было ў звароце сведчыць аб фармальным падыходзе першага намесніка начальніка Беларускай чыгункі да разгляду зваротаў грамадзян, што з'яўляецца парушэннем пункта 2 артыкула 9 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб".

Тое, што ў рашэнні, прынятым па маім звароце, не прадугледжваюцца меры, па аднаўленні маіх парушаных правоў і законных цікавасцяў, хаця такое аднаўленне знаходзіцца ў межах кампетэнцыі кіраўніцтва Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка", з'яўляецца парушэннем пунктаў 4, 6 артыкула 9 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб".

У сувязі з вышэйпададзеным, прашу прыняць меры па ліквідацыі парушэнняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь пры фарміраванні сайту Дзяржаўнага аб'яднання "Беларуская чыгунка".

З павагай -

Мядзведзеў Андрэй Юр'евіч.

МІНІСТЭРСТВА ТРАНСПАРТУ І КАМУНІКАЦЫЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ДЗЯРЖАЎНАЕ АБ'ЯДНАННЕ
БЕЛАРУСКАЯ ЧЫГУНКА
вул. Леніна, 17, 220030, г. Мінск
Тэл. (017) 225 48 60, факс (017) 227 56 48
E-mail: ns@rw.by
Р.р. 3012600090017 філіял 527 «Белжелдор»
ААТ «ААБ Беларусбанк» код 254 г. Минск
АКПА 00047792 УНП 100088574

МИНИСТЕРСТВО ТРАНСПОРТА И КОММУНИКАЦИЙ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ГОСУДАРСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ
БЕЛОРУССКАЯ ЖЕЛЕЗНАЯ ДОРОГА
ул. Ленина, 17, 220030, г. Минск
Тел. (017) 225 48 60, факс (017) 227 56 48
E-mail: ns@rw.by
Р.с. 3012600090017 филиал 527 «Белжелдор»
ОАО «АСБ Беларусбанк» код 254 г. Минск
ОКПО 00047792 УНП 100088574

13.11.2012 № 20-01-09/М-1732

На № __________ ад __________

Мядзведзеву А.Ю.
г. Рэчыца,
Гомельскай вобласці

Аб разглядзе звароту

Беларуская чыгунка разгледзела Ваш электронны зварот аб раскладзе руху цягнікоў на сайце.

У сувязі з уступленнем у сілу 03.11.2012 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25.04.2012 № 202 "Аб мерах па развіцці перавозак пасажыраў чыгуначным транспартам агульнага карыстання" змяніліся віды паведамленняў пры перавозцы пасажыраў.

Атрыманне Вамі паведамлення "К сожалению, нет данных о поездах данного следования" магло быць выклікана выбарам ўкладкі раскладу цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа пры праглядзе раскладу цягнікоў іншых ліній.

Новую сістэму транспартнага абслугоўвання можна ўмоўна суаднесці з раней дзеючай наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Прыгарадныя цягнікі | Цягнікі гарадскіх ліній. рэгіянальных ліній эканом-класа |
| Мясцовыя цягнікі | Цягпікі рэгіяналыіых ліній бізнэс-класа |
| | Цягнікі міжрэгіянальных ліній эканом-класа |
| | Цягнікі міжрэгіянапьных ліній бізнэс-класа |
| Далёкія цягнікі, міжнародпыя цягнікі (Пасажырскія. хуткія, хуткасныя, фірмовыя) | Цягнікі міжнародных ліній (Пасажырскія, хуткія, хуткасныя, фірмовыя) |

Згодна Ўказу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.02.2010 №60 "О мерах по совершенствованию использования национального сегмента сети Итернет" сайты дзяржаўных органаў і арганізацый фарміруюцца на рускай і (альбо) беларускай мовах, а пры неабходнасці на адной ці некалькіх замежных мовах.

У цяперашні час **вядуцца работы па стварэнні беларускамоўнай версіі сайта чыгункі.** Паэтапны ўвод плануецца ў першым квартале 2013 г.

У выпадку нязгоды з прынятым рашэннем Вы можаце звярнуцца ў Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь, размешчанае па адрасе: вул. Чычэрына, 21, 220029, г. Мінск.

Першы намеснік Начальніка Беларускай чыгункі У.Б. Міхайлюк.

# Беларускай чыгунцы - беларускую мову

Сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ у лістападзе-снежні 2012 года прынялі ўдзел у рэспубліканскай акцыі па вяртанні дзяржаўнай беларускай мовы ва ўсе сферы дзейнасці нашай дзяржаўнай беларускай (а не расейскай) чыгункі. Мы сабралі 570 подпісаў грамадзян горада Баранаічы за беларусізацыю чыгункі. 7 снежня 2012 года гэтыя подпісы былі накіраваны начальніку беларускай чыгункі сп. Уладзіміру Марозаву.

Найбольшую колькасць подпісаў сабрала актывіста ТБМ Аніскевіч Ганна (на фота).



***Віктар Сырыца,***
*старшыня Баранавіцкай Рады ТБМ.*

# Практычны сэнс посту

Пост - гэта шлях да спазнання саміх сябе, нашай грахоўнасці, асэнсавання нашага прызначэння на зямлі, узаемаадносін аднаго з другім і, галоўнае, што мы чакаем ад Госпада Бога.

Дзеля ласкі Божай пасціўся да фізічнай знямогі цар Давід, дзеля аблягчэння жыцця пасля страты мужа пасцілася ўдава Іудзіф. Налажыў на сябе пост цар Ахаў пасля таго, як быў выкрыты прарокам Ілёй у злачынстве (цар забіў суседа і авалодаў зямлёй і вінаграднікам яго).

Праз пост і ўстрыманне ад грахоўных учынкаў рыхтаваўся прыняць ад Госпада Бога Закон з Запаведзямі Маісей: *"І абвясціў я там пост каля ракі Агавы, каб скарыцца нам перад абліччам Бога нашага, прасіць у яго паспяховай дарогі сабе і дзецям нашым іўсёй маёмасці нашай "* (1 Езд. 8, 21).

У кнізе Выхад чытаем: *"Узышоў Маісей на гару. І пакрыла воблака гару ... Маісей уступіў у сярэдзіну воблака... І прабыў Маісей на гары сорак дзён і сорак начэй"* (Вых. 24, 12-18).

Заўважым, што пост у гэты час прымае сваю крытычную працягласць колькасна - сорак дзён, мера, якая застаецца рэальнай і па сённяшні дзень.

Вынік шчырай малітвы і посту Маісея наступны: Гасподзь даў яму дзве скрыжалі і Дзесяць Запаведзяў на іх. Такім чынам, усё, што адкрыў яму Бог на гары Сінай, і гэтыя Запаведзі ён запісаў у кнігі. Так з'явіўся Закон Божы.

Малітва для верніка - гэта не звычайная бытавая просьба. Каб падняцца таму, хто моліцца, да ўзроўню суразмоўцы са Святымі, з Дзевай Марыяй, з Богам, павінна з'явіцца пэўнае напружанне (стрэс). Таму ў гэтым выпадку менавіта пост з'яўляецца антыстрэсавым інструментам, ён дае маральнае права на малітоўную просьбу, дапамагае верніку. Можна сказаць, што пост - гэта духоўны подзвіг, духоўная падрыхтоўка чалавека перад зваротам да Бога.

У Евангеллі ёсць моманты, якія прымушаюць нас думаць, што Ісус Хрыстос не вельмі высока цаніў пост. Святое дабравесце паводле Марка нам паведамляе: *"У Іаанавых вучняў і фарысеяў быў пост. Таму прыйшлі да Яго і пыталіся: чаму вучні Іаана і вучні фарысеяў посцяць, а Твае вучні не посцяць. Ісус адказаў: ці могуць пасціць вясельныя госці, калі з імі жаніх? Пакуль прысутнічае між імі жаніх, яны не могуць пасціць. Але настане час, калі возьмуць ад іх жаніха, і тады, у гэты дзень, яны будуць пасціць "*(Мк 2, 18-20).

Сам Гасподзь Ісус Хрыстос пры ўступленні на грамадскае служэнне пасціўся сорак дзён і сорак начэй: *"Тады Дух завёў Ісуса ў пустыню для спакусы д'яблам. І калі Ён прапасціў сорак дзён і сорак начэй, нарэшце адчуў голад"* (Мф 4, 1-2).

Што ўяўляла сабой зямное жыццё Чалавека, Які разам са Сваімі вучнямі пераходзіў з горада ў горад, з паселішча ў паселішча. У адным месцы Яго прымалі з любоўю, у другім - недабразычліва. Часам Яго запрашалі ў багатыя дамы, але часцей за ўсё - у дамы бедных людзей. Праходзячы міма засеяных палёў, Яго вучні зрывалі калоссе, разміналі яго і елі зёрны, парушаючы гэтым суботнія дні.

Васілій Чарноў, складальнік кнігі "Вось пост, які Я выбраў", паведамляе нам, што час, адпушчаны Ісусу Хрысту для яго служэння ізраільскаму народу, быў занадта кароткі. Сын Божы быў засяроджаны на галоўным і як бы збоку пакідаў усе другарадныя пытанні. Менавіта таму традыцыйныя прадпісанні наконт посту і суботы Ім і Яго вучнямі не заўсёды выконваліся. Увогуле ў Евангеллі не сказана, што Хрыстос захоўваў якуюнебудзь дыету. Ён еў мяса, рыбу - усё тое, што было даступна Яму і яго вучням.

Але гэта не азначае, што Ісус Хрыстос на пост не звяртаў увагі. Успомнім, што, калі Яго вучні не змаглі вылечыць апантанага (душэўна хворага) чалавека, Гасподзь ім сказаў: *"Гэты род злых духаў выганяецца толькі малітвай і постам"* (Мф 17, 21). У Дзеяннях Святых Апосталаў прыгадваецца, што яны посту прытрымліваліся.

Гасподзь вучыць і нас, як трэба паводзіць сябе падчас посту. У Евангеллі паводле Св. Матфея чытаем: *"Калі посціце, не будзьце змрочнымі, як тыя крывадушнікі. Яны выглядаюць панурымі, каб паказаць людзям, што яны посцяць. Праўду кажу вам: яны ўжо атрымалі ўзнагароду сваю. Ты ж, калі посціш, ... абмый твар твой, каб не людзям паказаць, што ты посціш, але Айцу твайму, утоенаму, і Айцец твой, Які бачыць таемнае, узнагародзіць цябе яўна "* (Мф 6, 16-18).

У сучаснай практыцы пост - гэта перш за ўсё ўстрыманне ад скаромнай ежы, г.зн. ад мясных, малочных і ўвогуле жывёльных прадуктаў. У строгі пост, акрамя таго, не дазваляецца ўжыванне алкагольных напіткаў.

Але, акрамя ўсяго гэтага, мы павінны памятаць, што захоўваем пост не дзеля ўстрымання ад ежы, а для таго, каб дасягнуць вышынь на нашым духоўным шляху.

Захоўваць пост павінны ўсе, у любым узросце, бо ўстрыманне ад скаромнай ежы ачышчае арганізм і лечыць, загартоўвае волю, выпрацоўвае хрысціянскі дух, высакародны характар.

Рэкамендуецца:

а) дзецям у час посту ўстрымлівацца ад цукеркаў, марожанага, чыпсаў, мульцікаў-фільмаў і дапамагаць бацькам, быць больш стараннымі ў школе;

б) моладзі ўстрымлівацца ад дыскатэк, менш сядзець у тэлевізары, інтэрнэце, часцей наведваць храм і чытаць духоўную літаратуру;

в) хворым вернікам і людзям пажылога ўзросту яшчэ больш трэба прытрымлівацца посту для хутчэйшага выздараўлення і аблягчэння арганізма;

г) здаровым людзям праз захаванне посту можна лягчэй зразумець патрэбы бліжняга, які ў бядзе, голадзе, у патрэбах; устрымлівацца ад забаў і тэлевізара, больш быць разам з сям'ёю, у храме, адчуць прабачэнне Божае і прабачаць другім.

*(Працяг будзе.)*

*Ксёндз-пробашч Мінскага касцёла Св. Сымона і Св. Алены*
***У. Завальнюк,***
*магістр тэалогіі, кандыдат гістарычных навук.*

# Няўрымслівы юбіляр

У Чэрыкаве па вуліцы Камсамольскай жыве Мікалай Прохаравіч Царкоў - чалавек, які, нягледзячы на салідны ўзрост, па-юнацку малады душой. Ведаюць Мікалая Прохаравіча не толькі ў нашым райцэнтры, але і далёка за яго межамі. Па-першае, ён карэнны жыхар Чэрыкаўшчыны. Падругое, доўгі час працаваў настаўнікам. А настаўнік - заўсёды чалавек вядомы ў шырокім коле людзей. Да таго ж, Царкоў - славуты майстар. Паважаюць яго за высокую адукаванасць, кампетэнтнасць, актыўную жыццёвую пазіцыю і за шчырасць душы. Сёлета, напрыканцы лістапада, Мікалаю Прохаравічу споўнілася 80 год. Шматлікія сябры, былыя калегі і вучні ад душы павіншавалі юбіляра і пажадалі яму ўсяго самага найлепшага. Хочацца і мне сказаць добрае слова пра земляка. Жыццёвы шлях Мікалая Прохаравіча пачынаўся ў вёсцы Вербеж, што на Чэрыкаўшчыне. Адсюль былі родам яго бацькі. Працавітая сям'я жыла на хутары. А дзе праца - там і дабрабыт. Але ў першыя гады пасля рэвалюцыі працавіты чалавек, які жыў заможна, лічыўся амаль што ворагам. У трыццатыя гады Царковых раскулачылі. Дзеда забралі, і больш яго ўжо ніхто не бачыў. А сям'ю выгналі ў чыстае поле. Бацька Мікалая і яго брат, каб пазбегнуць арышту, выráшылі "згубіцца" на працягах вялікай краіны. Пры дапамозе знаёмых і волю лёсу яны апынуліся ў Ленінградзе. Маці засталася дома. Яе не арыштавалі, бо ў жанчыны было двое малалетніх дзяцей, адзін з іх - Мікалай. Каб застацца ў сваім доме, маці Мікалая прыйшлося выкупіць яго, сабраўшы пакрыху грошай у сваіх родзічаў. Калі мужу далі пакой у рабочым бараку ў Ленінградзе, яна з дзецьмі прыехала да яго. У сям'і нарадзілася трэцяе дзіця. У хуткім часе Царковым пашчасціла. Бацька працаваў на будоўлі дома для работнікаў Ленсавету, і ў гэтым доме на апошнім паверсе зрабілі інтэрнат для будаўнікоў. Царковым выдзелілі там пакой - 14 квадратных метраў, замест васьмі, якія былі раней.

Вайна парушыла ўсе жыццёвыя планы. Бацька пайшоў на фронт, а маці з дзецьмі засталася ў блакадным Ленінградзе. Мікалаю тады было дзесяць гадоў. У першую зіму выжыць дапамагло лісце капусты, якога цэлы мех прынёс з сабою бацька: аднойчы заскочыўшы дадому. Гэтае замарожанае лісце парэзалі і заквасілі, а потым варылі з яго ежу. Летам Мікалай хадзіў разам з іншымі ў шчаўе. Яго збіралі для раненых. Хлопчыку так хацелася есці, але ён разумеў, што камусьці нават адзін лісцік патрэбны. Гэта быў для яго першы ўрок на вытрымку, цярпенне і жаданне дамагчы іншым.

Адбітак блакады застаўся ў Мікалая Прохаравіча на ўсё яго далейшае жыццё. З фронту не вярнуўся бацька.

Але жыццё працягвалася. Мікалай пайшоў вучыцца. У 1947 годзе ён паступае ў на вучобу ў Ленінградскую рамесную вучэльню, якую заканчвае ў 1949 годзе па спецыяльнасці токар. З трыццаці выпускнікоў толькі два атрымалі пяты разрад. У іх ліку і Мікалай. Адсюль і пачалася любоў да працы, да прафесіі. Пасля вучэльні Мікалай пайшоў працаваць на Ленінградскі інструментальны завод. Працаваў з вялікім задавальненнем, хаця і плацілі мала.

Затым была служба ў арміі. У гэты час юнак здаў экзамены за сямігодку. Вярнуўся на завод, але паступіў на завочнае навучанне ў Ленінградскі станкабудаўнічы тэхнікум. Мікалай Прохаравіч імкнуўся да ведаў, каб стаць добрым прафесіяналам сваёй справы. Аднак ён заўсёды аналізаваў, ці тым шляхам ідзе па жыцці, ці той справай займаецца. Заўсёды штосьці шукаў і імкнуўся да новага. Пошукі не прайшлі дарэмна. Мікалай пачаў сур'ёзна захапляцца фатаграфіяй. Аднойчы ён наведаўся на выставу аднаго фотаклуба. Убачыў і вырашыў, што таксама будзе здымаць. Зноў узяўся за самаадукацыю. Увесь вольны час - у бібліятэцы або з фотаапаратам. Прыйшоў у фотаклуб, калі ў ім заняткі ішлі ўжо другі год. Спачатку не хацелі прымаць А потым, калі ўбачылі работы, узялі адразу. Мікалай Прохаравіч атрымаў пасведчанне і пачаў супрацоўнічаць з рознымі выданнямі. І гэта быў не спецыяльны фотакар, а просты токар з завода.

А потым нечакана запрасілі на працу ў школу. Гэта былі 60-ыя гады, калі ў школьную праграму ўвялі працоўнае навучанне, і падрыхтаваных настаўнікаў яшчэ не было. Таму запрасілі лепшых умельцаў з вытворчасці. Тады Мікалай быў ужо токарам-расточнікам, майстрам рабочага ўчастка.

У школе ўсё аказалася няпроста, бо свае веды трэба было перадаць дзецям. Але як? Трэба было зноў брацца за самаадукацыю. Мікалай Прохаравіч пайшоў на эксперымент. Даў вучням свабоду творчасці. Вучні разам са сваім настаўнікам зрабілі прыгожым інтэр'ер сваёй школы. І гэта быў першы станоўчы досвед педагагічнай дзейнасці М.П. Царкова. Ленінградскія школьнікі - вучні Мікалая Прохаравіча сталі далёка вядомыя дзякуючы сваім вырабам, якія экспанаваліся на ВДНГ у Маскве і на міжнароднай выставе ў Японіі. Па наватарскі досвед Царкова прыязджалі ў школу, дзе ён працаваў. Адзнака працы настаўніка - прысваенне яму звання "Выдатнік народнай асветы" і "Заслужаны настаўнік школ РСФСР". У Ленінградзе гэта быў першы выпадак прысваення амаль адразу двух гэтых званняў настаўніку працоўнага навучання, які тым больш не меў вышэйшай адукацыі. Мікалай Прохаравіч дзяліўся досведам плённай працы на Ўсерасійскім з'ездзе настаўнікаў і на Ўсесаюзных педагагічных чытаннях, праводзіў семінары для работнікаў адукацыі са Швецыі, заслухоўваўся на вучоным савеце Акадэміі педнавук СССР, праводзіў адкрытыя ўрокі для гэтай Акадэміі.

Мікалаю Прохаравічу прапаноўвалі прэстыжную працу і кватэру ў Маскве, але дрэнны стан здароўя, падарванага ў гады Ленінградскай блакады ўсё больш давалі аб сабе ведаць. І Мікалай Прохаравіч прымае для сябе рашэнне ехаць на сваю малую радзіму. Так ён апынуўся ў Чэрыкаве, дзе пасля вайны пасялілася яго маці. Трэба было дапамагчы старэнькай матулі.

Вярнуўшыся ў Беларусь, Мікалай Прохаравіч усім сэрцам закахаўся ў краявіды Бацькаўшчыны, што дала новы штуршок яго творчасці. Спачатку М.П. Царкоў працаваў у раённым гістарычна-краязнаўчым музеі навуковым супрацоўнікам. Адначасова ўдасканальваў знешні выгляд будынка і яго пакояў. Але хацелася працаваць у школе, перадаваць сваё майстэрства вучням. Таму Мікалай Прохаравіч уладкаваўся ў Рэчыцкую школу настаўнікам працоўнага навучання, малявання і чарчэння. Потым была праца ў СШ № 1 г. Чэрыкава. Дзеці цягнуліся да таленавітага настаўніка, які шмат чаму іх вучыў. Разам афармлялі школу, каб яна была прыгожай. Гэта яны зрабілі непаўторны фасад будынка дзіцячай бібліятэкі, пра якую і зараз кажуць: "Казка!" На жаль, не ўсе планы змог ажыццявіць майстар. У тым няма яго асабістай віны, бо шмат што залежыць і ад іншых. Як кажуць, чалавечы фактар. Але працы Мікалая Прохаравіча атрымалі высокую адзнаку на конкурсе настаўнікаў працоўнага навучання. Яны прайшлі з вобласці на рэспубліку, з рэспублікі на Саюз і былі ўзнагароджаны Дыпломам Саюза мастакоў СССР. Калі ў Чэрыкаве рэканструявалі царкву, актыўны ўдзел у гэтым прымаў Мікалай Прохаравіч Самай значнай работай быў выраб іканастаса, за што Мікалай Прохаравіч быў узнагароджаны юбілейным медалём з нагоды 1000-годдзя хрысціянства. Гэта яго самая галоўная ўзнагарода ў творчым жыцці. Дарэчы, яго сын Уладзімір, які жыве ў Санкт-Пецярбургу, разам з бацькай пісаў абразы свечах для Чэрыкаўскага храма.

Работы Мікалая Прохаравіча экспанаваліся і прадаваліся на розных аўкцыёнах за мяжой. Гэта было пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Грошы ад продажу майстар пералічыў у фонд "Дзеці Чарнобыля". Вершы М.П. Царкова друкаваліся на старонках раённай газеты. У адным з тамоў новай "Беларускай энцыклапедыі" змешчана яго творчая біяграфія.

Мікалаю Прохаравічу - 80 гадоў, а сябры і знаёмыя называюць яго няўрымслівым. Ён напісаў кнігу-роздум "Педагогіка творчасці", і нядаўна адбылася яе прэзентацыя. Юбіляр прымае таксама актыўны ўдзел у працы раённай суполкі Таварыства беларускай мовы.

Гэты чалавек - гонар нашай Чэрыкаўшчыны і кожнага з нас, яго землякоў.

***Мікалай Шчэрбіч.***

# Абвестка!

Да ведама сяброў Рады ТБМ, усіх сяброў і прыхільнікаў ТБМ.

У адпаведнасці з рашэннем Сакратарыяту ТБМ чарговая Рада ТБМ адбудзецца ў Менску 20 студзеня 2013 года ў сядзібе ТБМ.

Рэгістрацыя сяброў Рады з 10.00.

Пачатак працы - 11.00.

Парадак дня Рады:

1. Справаздача кіраўніцтва ТБМ аб працы арганізацыі за 2012 год.
2. Прыняцце Плана дзейнасці ТБМ на 2013 год.
3. Прыняцце Пастановы ТБМ аб памеры сяброўскіх складак на 2013 год.
4. Аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ.

У газеце "Наша слова" ад 24 кастрычніка 2012 г. № 43 надрукаваны праект плана працы ТБМ на 2013 год, ухвалены на Радзе ТБМ у кастрычніку 2012 г. Таму просім да 15 студзеня 2013 года даслаць свае прапановы па ўдасканаленні гэтага плана.

Сакратарыят ТБМ.





# 500-годдзю Мікалая Радзівіла Рудога прысвячаецца

У суботу, 8 снежня, у Музеі гісторыі Магілёва адбылася сустрэча з гісторыкам Алегам Дзярновічам, які наведаў горад на Дняпры з лекцыяй прысвечанай 500-годдзю ваеннага, палітычнага, рэгілійнага і грамадскага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, канцлера і вялікага гетмана літоўскага Мікалая Радзівіла Рудога. Гасцямі вечарыны сталі каля 50 магілёўцаў.



Спачатку перад прысутнымі з кароткім уступным словам выступіў старшыня Магілёўскай гарадской арга-



нізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны Алег Дзьячкоў, які і прадставіў магілёўцам Алега Дзярновіча.

Цікава, што лекцыя сп. Дзярновіча, якая працягвалася амаль паўтары гадзіны, не была прысвечана толькі асобе Мікалая Радзівіла Рудога, што гісторык вырашыў не абмяжоўваца агульнадаступнай інфармацыяй пра гэтую даволі знакамітую ў айчыннай гісторыі асобу. Як адзначыў навуковец, ён не з'яўляецца даследчыкам жыцця М. Радзівіла Рудога, а таму хоча распавесці прысутным пра тое, што амаль не вядома беларускай грамадскасці і што з'яўляецца прадметам яго ўласных пошукаў і даследаванняў - пра паэму польскага гістрыка і пісьменніка Мацея Стрыйкоўскага "Бітва пад Улай".

Гасцям вечарыны было вельмі цікава даведацца як пра саму гісторыю напісання гэтай баракальнай паэмы, такі і пра яе далейшы лёс. Аказалася, што рукапіс паэмы спачатку захоўваўся ў Нясвіжы, потым трапіў у Варшаву, адтуль - у Санкт-Пецярбург, дзе трапіў у калекцыю беларускага гісторыка і педагога Ігната Анацэвіча. Таксама пэўны час рукапіс захоўваўся ў Маскве.

Што да зместу твора, то ў паэме гаворыцца пра перамогу войска ВКЛ над маскоўскім войскам пад Улай у 1564 г. Па меркаванні А. Дзярновіча, бліскучая перамога беларускага войска на чале з Мікалаем Радзівілам Рудым яшчэ на 5 год адтэрмінавала падпісанне Люблінскай уніі. Увогуле ж, адзначыў Алег Дзярновіч, гісторыя - гэта палітра з самымі разнастайнымі сюжэтамі і падзеямі, і таму вельмі добра, што ў паэме "Бітва пад Улай" Мацей Стрыйкоўскі імкнецца аб'ектыўна апісаць тагачасныя падзеі.

На жаль, сам рукапіс захаваўся ў далёка не ў лепшым стане, і таму гісторыку ўдалося пакуль прачытаць прыкладна 80% твора. Тым не менш у бліжэйшы час сп. Дзярновіч паспрабуе скончыць аналіз паэмы і зрабіць яе змест даступным шырокаму колу чытачоў.

Акрамя таго, напрыканцы вечарыны Алег Дзярновіч распавёў прысутным пра раскопкі ў Крэўскім замку, прадэманстраваў на слайдах унікальныя знаходкі там, а таксама распавёў пра нядаўняе ўрачыстае перапахаванне парэшткаў Мікалая Радзівіла Рудога і яго брата Мікалая Радзівіла Чорнага ў Дубінках пад Вільняй.

**Даведка.**

*Алег Дзярновіч - старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Даследуе гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і Балтыйскага рэгіёну 13-17 стст. Рэдагуе перыядычныя выданні "ATHENAEUM: Commentarii Historia et Culturae" і "ШУФЛЯДА: Часопіс Найноўшае Гісторыі". Аўтар манаграфіі "In nostra Livonia: дакументальныя крыніцы па гісторыі палітычных адносінаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівоніяй у канцы XV - першай палове XVI стагоддзяў".*

***Юрась Каласоўскі,***
*Магілёў.*

# У Менску ўшанавалі памяць Максіма Багдановіча

9 снежня ў Менску прайшоў мітынг у гонар памяці самага рамантычнага беларускага паэта Максіма Багдановіча, які нарадзіўся ў гэты дзень 121 год таму назад. Каб пакласці кветкі каля помніка Багдановічу, прыйшлі навучэнцы школ, Суворaўскай вайсковай вучэльні, літаратурныя дзеячы, працаўнікі музея М. Багдановіча.




Максім Багдановіч з'яўляецца адным з утваральнікаў сучаснай беларускай мовы. Багдановіч выступаў як




крытык і гісторык літаратуры, распачынальнік традыцыі беларускага мастацкага перакладу.

"Места" з адзінага прыжыццёвага зборніка паэта "Вянок" з'яўляецца першым узорам урбаністычнай лірыкі ў новай беларускай паэзіі.

Спадчына Максіма Багдановіча ўвайшла ў залаты фонд беларускай культуры, а традыцыя штогадовага ўшанавання паэта па ўсёй бачнасці ўсталявалася надзейна

*Паводле **Сяргея Ягелы**, tut.by.*




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Восіпава Аляксандра - 50000 р., г. Гомель
2. Мазынскі Валер - 20000 р., г. Менск
3. Прылішч І.А. - 35000 р., г. Менск
4. Чайкоўскі Павел - 50000 р., г. Менск
5. Давідоўскі Ігар - 100000 р., г. Менск
6. Шкірманкоў Феліск - 50000 р., г. Слаўгарад
7. Ліс А. С. - 30000 р., г. Менск
8. Міцкевіч В.У. - 10000 р., г. Менск
9. Катлярова Раіса - 30000 р., г. Магілёў
10. Невядомы - 100000 р., г. Менск
11. Джэйгала У.В. - 100000 р., г. Менск
12. Дайлід Вольга - 20000 р., г. Івацэвічы
13. Раманік Т.І. - 100000 р., г. Менск
14. Кукавенка Іван - 25000 р., г. Менск
15. Лазарук Тамара - 30000 р., г. Менск
16. Сакалоўскі Віктар - 100000 р., г. Ваўкавыск
17. Талерчык А.С. - 50000 р., г. Гародня
18. Ціхановіч Я.А. - 100000 р., п. Лясны, Менскі р-н.
19. Пухоўская Юлія - 20000 р., г. Менск
20. Таўгень Людвіка - 300000 р., г. Валожын
21. Чачотка Анатоль - 70000 р., г. Менск
22. Рагаўцоў Васіль - 50000 р., г. Магілёў
23. Бушкова Тацццяна - 671000 р., г. Магілёў
24. Віданава Ірына - 25000 р., г. Менск
25. Ахрамчук Віктар - 40000 р., г. Светлагорск
26. Дзям'яненка Юлія - 50000 р., г. Менск
27. Шынкевіч Уладзімір - 50000 р., г. Менск
28. Сівы Сяргей - 15000 р., г. Валожын
29. Таўгень Людвіка - 15000 р., г. Валожын
30. Пятровіч Аксана - 25000 р., г. Валожын
31. Панкратава Н. 25000 р., г. Валожын

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Беінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

Касір

Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Плацельшчык

# Фільм пра Радзівілаў на БТ-1 і TUT.BY

"Беларусь-1" і партал TUT.BY на мінулым тыдні прадставілі дакументальны фільм журналістаў АТН "Радзівілы. Тайны сям'і". На працягу трох дзён паказвалі па адной серыі фільма.

Міфічны продак і сямейныя войны, геніі і ізгоі вялікага роду, нашы Фаўст, Дракула, Робін Гуд, Барон Мюнхаўзен і нават свой Радзівіл - Сіняя Барада.

Журналісты АТН знайшлі адказы на загадкавыя пытанні легендаў роду, з прадстаўнікамі якога на працягу стагоддзяў лічыліся манархі ўсяго свету, у якім былі і каралеўскія асобы, і людзі, якія гралі першую скрыпку пры еўрапейскіх дварах.

У прынцыпе так ці інакш абгавораны і прадстаўлены ўсе цікавыя і вядомыя легенды і факты з гісторыі роду, нават такія нязручныя для сённяшняй канъюктуры, як уваход Дамініка Радзівіла на чале ўласнага палка ў вызваленую ад расейцаў Вільню ў 1812 годзе, або разрабаванне Нясвіжскага замка расейскімі войскамі. Фільм можна знайсці і паглядзець на TUT.BY.

***Наш кар.***





Валер Санько

# Самазабойства - грэх апраметны

## Апавяданне

*Фаталістычна-язычніцкае апавяданне "Самазабойства - грэх апраметны", пасылаў 19 разоў у рэдакцыі газет, дзяржаўных, недзяржаўных, прыватных, сталічных, абласных. Нікога тэма не зацікавіла. Хаця ў адной Беларусі штогод самагубнічае, робіць спробу на такое дурноцце амаль 1200 чалавек.*

*Фактуру яго ў адным матэрыяле выкарыстаў (грэх не паведаміць людзям пра такое). Думаецца, нескарочанае апавяданне многіх намежавых засцеражэ ад кроку ў Тагасвецце.*



Што памеры ўлоння жанчыны ў параўнанні з памерамі Зямлі, тое памеры Зямлі ў параўнанні з Тагасвеццем; у Ім безліч вымярэнняў, ацэнкаў матэрыі, руху, святла. Лабарантка Марыя Петрачэнка пра гэты свет і той свет ніколі дасюль не задумвалася. Як і большасць нармальных здаровых людзей вакол.

Зроблены аборт, насуперак просьбам і рашэнню мужыка, перавярнуў душу маладзіцы. Рашучае асуджэнне свякрухі, свёкра, цвёрдая навага Арцёма на развод, страх зробленага граху даканалі Марыю Петрачэнка. Удар грузавіка, бальнічная палата. У жанчынкі адбыўся пераварот у ацэнках, вымярэннях.

Яна стала зачаста ўзірацца ў вакно. Хвіліну, другую, паўгадзіны; увечары доўга не засынае. На пытанні бацькоў адказвае знеахвоцьна.

Пасляабортны раз'езд з мужыком, дасюль родненькім і дарагім, абражаным бязглуздасцю рашэння жонкі, падзейнічаў на завочніцу Гомельскага ўніверсітэта надта адмоўна.

Нішто не міла дваццацігадовай. Сама не разумее, што з ёю.

Калі стала затрымлівацца на гарышчы хаты, ні з таго ні з сяго заўзіралася ў вершаліны дрэваў блізкага лесу, маці паехала ў гарадскую школу, балазе ў маленькую прыгарадную вёску з Добруша рэгулярна хадзіў гарадскі аўтобус. Штосьці нядобрае робіцца з дачкою, да доктара ісці не хоча, травяныя настоі не п'е, да шаптухі нізашто. Можа ў школе вы, начальства, мучыце яе лішнімі нагрузкамі, крыкамі, перапытвала дырэктарку занепакоеная маці.

- Апошні час яна часта ператалкоўваецца з настаўніцай Антанінай Адамаўнай Макарэняй. Пагаварыце з ёю. У школе ў Марыі Сапронаўны ўсё нармальна, - дырэктар адводзіць маму Марыі Петрачэнкі ў настаўніцкую.

Дзве жанчыны размаўлялі не так доўга, але завохкалі, а пасля і заслязіліся практычна ў адначассе - Антаніна Макарэня, што не прыдавала асаблівай увагі зодуму маладой каляжанкі пасля яе абортнай дураты, а старэйшая Петрачэнкавая, што позна звярнулася па параду ў першую школу райцэнтра.

- Баюся, каб не звар'яцела... Сонная стала, нішто яе не кранае, - рэдзіць старэйшая. Паўтарае пра восьмовы штамп у пашпарт дачкі пра развод.

Антаніна Макарэня не пазірае на гадзіннік, не спяшыць запаўняць журнал "Дадатковыя заняткі з вучнямі", блізіцца да крамяной яшчэ жанчыны, выдыхае страхотнае:

- Не таго вы баіцеся, не таго. - Як мякчэй сказаць матцы пра магчымую страту дачкі, ну як? Агучваецца згадка сама: - Яна зсамагубнічаць уздумала. - Убачыла эфект ад выказанага на жанчыну, не адступіла. Адкуль бралася доказнасць развагаў, Макарэневая не ведала. Хто можа выратаваць некага ад самагубства, павінны гэта рабіць; сто разоў паўтараць, у розных месцах. - У апраметны грэх, у самагубства наважылася. Дзіцё яна яшчэ ў вас, дзеці і алкашы на штохочна адважваюцца ў хібны момант.

Бяда Марыі Петрачэнкі ядная абедзвюх. З вынаходлівасцю бітых сталых жанчын шукаюць выйсце. Імаверна, сапраўды Марыйка ўздумала тупое, пакуль другі раз выйдзе замуж, зацяжарае, можа сцерціся з планіды.

- У мяне ёсць адзін варыянт, не хочацца ўзгадваць, - выціскае Антаніна Макарэня пасля паспешнага абмеркавання спосабаў ужыўлення ў быццё маладзікі. - Быў тут мой зямляк, доктар ад медінстытута і доктар народнай медыцыны. Нешта ведае з памежавага, заглыбіннага. Дапамагае людзям. У Слуцку адной сям'і моцна памог, выручыў ад аварыі, гаспадара ад самагубства. Яны практычна здалі яму адну кватэру. Ключы і ў яго. Два ці тры дні на месяц прымае ў ёй людзей.

- Кіну ўсё, паеду да яго. - Жанчына просіць Макарэневую даць адрас, тэлефон Аляксея Бялько. - Ей-Богу паеду.

- Ехаць не трэба, ён вас не прыме. Зафанабэрнічаў ці што. Грошай не бярэ, дык нос задзірае. Наезджанцы хочуць за адзін-два прыёмы вылечыцца. Не ўдаецца - скардзяцца. Праверкаў ён не хоча, згадзелі. Не-не, ён вас не прыме.

Як ні парадаксальна, але дарогу старэйшай Петрачэнкавай да Аляксея Бялько пратарыла не аднавяскоўка Антаніна Макарэня, а новы сябра вядуна Раман Кавалёў.

Вынік быў нечаканы. Заказныя пісьмы адначасова атрымалі Марыя Петрачэнка і яе маці.

*Марыі Петрачэнка.*

*1. Пазаўчора Раман Нічыпаравіч Кавалёў па просьбе жонкі Антаніны Макарэні размаўляў са мною па тэлефоне, прыслаў пісьмо-просьбу. Сэнс яго зваротаў - памагчы невядомай мне Марыі Петрачэнка, вызначыць яе стан, вярнуць да рэаліяў школы і вёскі.*

*У просьбы дальніх і пра дальніх я стараюся не ўмешвацца. Паможаш не паможаш, падзякі не будзе, крыўды займець можаш.*

*Тут не той каленкор. Маладая справядлівіца з розуму і дурасці стаіць на мяжы непапраўнага, рыўка ў гнюсную для чалавека несціраннасць. Марыя не ўспрымае просьбы блізкіх, парады матулі і новай школьнай дарадчыцы Антаніны Адамаўны. Яна на мяжы самагубства, так-так, самагубства, ведае гэта маці ці не, хай хутчэй асэнсовіць і засцеражэ маладую неразумніцу.*

*Спецыяльна адсылаю асобна заказное пісьмо вам, матуля, і табе, Марыя. Каб ты, маладая пакрыўджанка, ведала: не цябе крыўдзіць жыццё, ты аплёўваеш вакольных, а цяпер мажэшся абгнюсіць блізкіх, школу, быццё.*

*Будзеш ты жывая, не будзеш жывая - існасці твой псіхаваны бзык нуль. Гэтым пісьмом расчыняю табе вочы і мазгі. Нікога губствам не ўразіш, не ўлячэш, адно сябе і крэўных.*

*Так, да жалю, бывае ў асобных псіхічна кранутых. Пасля азнаямлення дадзеным лістом з часцінкаю Тагасвецця ні адзін хворы самаахвотна не кінуўся ў апраметную цемру. Веру, ты, Марыя, зробіш жыццедайны выбар. Цяперашнія ўдары быцця, сямейныя няўладкі не будзеш успрыймаць канцом свету.*

*2. Дазвольце задаць вам абедзвюм нескладанае пытанне. Для чаго нараджаецца чалавек? Заплюшчыце вочы і дайце адказ, а тады чытайце далей.*

*Для працы, шчасця, радасці, здабывання дабротаў, гадавання дзяцей, дапамогі блізкім і знаёмым... - усё правільна. Тым не меней яно ўсё на другім плане. На першым - чалавек нараджаецца для пакутаў. Для-а па-ку-таў! Найперш для іх. Пасля ўсведамлення такога кожны жыційны прасвет радасці ў чалавека - шчасце, цікавая размова, кніга, поспех, адметная сустрэча, учынак - шчасце, любая праца - значная, волатная.*

*Чалавек павінны жыць, каб не абцяжарваць слязамі і просьбамі, дакорамі і папрокамі блізкіх: сваякоў, мужыка, дзяцей, знаёмых, супрацоўнікаў. Аксіёма. Чым болей ён пішчыць, тым болей яго шкадуюць, дабрачаць і... пагарджаюць. Не выказваюць, выгляду не падаюць, у сэрцы гэтага не маюць, а на далёкіх ступеньках падсвядомасці сядзіць патай зневажэння да нясконцага просьбітніка. Лішнія турботы нікому не трэба. Важна, каб цябе сустракалі коні і ладдзі, пешкі і афіцэры як дастойнага, вартнага, а не жабрака з працягнутай рукой.*

*3. На першым перакрыжаванні чалавека ацэньваюць/уважаюць найперш не за добрыя справы, гэта само сабою, не за недапушчанае зло - такое само сабою разумеецца, яно на другім плане.*

*Найперш ацэньваецца... Не ўсім ведаць поўны адказ, стрыжнявае не кажу. Дастаткова вам наступнага. Жыць трэба не адно для працы, пра гэта я толькі што казаў - каб не знікла мінулае, твой род, гісторыя тваёй нацыі.*

*Сваякі будуць гідзіцца самазабойцы, з-за недамысліка народ стане бэрсіцца ўсіх яго крэўных. Як карослівых. Маладзейшыя сем'і будуць смяяцца, абыходзіць, апасаца. Чалавек абавязаны дастойна прайсці свой метр пакутаў, не можаш метр - сантыметр, не долееш - міліметр. Але прайдзі. Не выцерпіш удары жыцця, не адкрыеш запланаванае - рэзка сплывеш уніз, на полкі пекла. Як алкаш, бомж. Найперш ацэньваецца Там не ўзрост і прафесія, нацыя, грошы і пасада - хада ў дабрынь, цярплівасць.*

*Ты ўсё, Марыйка, выканала - памагла навучыцца пісаць і лічыць школьным дзеткам? Памагла ўсім дастойным і слабым, добрым і злым, лепшым за цябе і горшым ад цябе? Не дапамагла, як і я, лекар добры і нядобры, шчасны і няшчасны.*

*Мы з табою ў гэтым плане роўныя - колькі ні стараемся, усё мала, усё не поўнае, не тое...*

*Ніхто не можа пайсці Дахаты, пакуль не выканае запланаванае правідэнцыйнасцю, генамі і ўласнымі мазгамі, горам уласным і працаю. Усе абавязаныя здзяйсняць, працаваць, тварыць. Радаваць чалавека справамі і словамі. Не думаць раней часу пра Тагасвецце.*

*4. Ёсць тысячы няшчаснейшых за нас. Не кідаюцца ў пролубку, пад цягнік, на стрэл ці нож, не вешаюцца. Церпяць нядолю існавання. Церпяць.*

*5. Падышоў да галоўнага ў дадзеным пісьме.*

*У чалавека няма нагі, рукі. Церпіць. Прыносіць якможнае цяпло і радасць блізкім.*

*У другога галоўка паехала. Дзень здаецца ноччу, не верыць дабру, адвяргае цяпло. Хочацца яму адпомсціць жывым, асабліва крэўным і прыяцелям. Аднак не рэжа блізкіх, церпіць долю-нядолю. Не кідаецца з дзевятага паверха ўніз ці пад цягнік.*

*Адно нецямкія шкаляры могуць з лёгкасцю атруціцца, павесіцца ці кінуцца пад грузавік, каб дапячы родным, дзяўчыне, настаўніку. Недапечанцы не асягаюць, болей ніякіх учынкаў у іх тут не будзе, сыходзяць з планеты навечна.*

*Памерлыя і забітыя не сплываюць у нябыт, а маладзёны-самазабойцы распыляюцца. Дык маладое - няразвітае, цёмнае, дурадурнотнае. А ты, Марыя, сталая і думкая?*

*6. Закон існавання жывога - не сам нарадзіўся, не сам канчаешся, ты не маеш права пасягнуць на волю Бога, перапыніць уласнае існаванне.*

*7. Грэх, найвялікі грэх кожнаму, хто перапыніў ручай уласнага быцця. Нарадзіўся - гаруй, выконвай можнае, дабрачынічай, карай цемру і злаcнюкоў, працуй, галоўнае працуй. Прыйдзе сузгодненасць, дзеці, заможнасць, гармонія.*

*8. Які б не быў ты раз'адчайнены, бойся падняць нож/сякеру на другога. Пусціў яму кроў - узяў яго грахі на сябе, забіў - узяў грахі яго крэўных на сваіх крэўных. Тое ж і з самазабойствам.*

*9. Душы смелых і найгарэтных, якія вераць у Бога, а не вераць у Тагаіснасць, перад якой планета Зямля - меней лістка на дрэве, - душы самагубцаў не трапяць на перакрыжаванне. Яны стануць смеццем перад палонкаю ў лёдзе: туды не могуць, сюды не пускаюць, тут няўлежна, там няможна.*

*Самагубцы пазайдросцяць чарвяку на распаленай патэльні. Пекла для іх у зямных вымярэннях доўжыцца не секунду ці трыццаць дзевяць дзён, не год ці стагоддзе, пекла для іх тысячы гадоў. Душы такіх, як забойцаў або падвучальнікаў на забойства, не ідуць уверх ці ўніз. Ім няма пераплаўкі. Такія людзі парушылі волю Бога. Паўтараюся, бо патрэбна паўтарацца.*

*10. Баіцца самагубства любое існае на ўсіх паралелях. Так запісана на скрыжалях жыцця, укрэслена ў дрэве жыцця. Свядома/несвядома гэты закон шануюць усе. Думайце і бойцеся, людцы. Пакуты і радасці цяперішчыны - мільярдная доля ў параўнанні з Тагаіснымі радасцямі і пакутамі.*

*11. У цябе, Марыйка, так склалася, пакуль няма дзяцей, кінуў мужык. Ну і што - канец свету, плакаць, псіхаваць? Разам з птушкамі ляцець у вырай?*

*Час табе супакоіцца, нікому не навязвацца. Адразу ўсё ўсталюецца. Знойдзецца чалавек для душы і цела.*

*12. Адумайся. Пішчы не пра сябе і боль душы тваёй. Абмазгуй становішча блізкіх пасля твайго выкідону, ускрыку, самагубства. Сябе не шкада, іх пашкадуй, сталых і маладых.*

*13. Самагубцаў гідзяцца сваякі, ніколі іх не ўспамінаюць, саромеюцца. Сваякоў самагубцаў не бяруць за жонку, у прымакі, у ніводную пристойную сям'ю. Крэўнікаў самагубцаў доўга пераць няшчасці, бо яны змалку не засцярогвалі дзіця ад звар'яцельства.*

*14. Самагубства не абараняе ніводна рэлігія.*

*15. У храмах такіх не адпяваюць.*

*16. На кладах самагубцаў не хаваюць. За тысячы гадоў існавання ўсе нацыі планеты засвоілі: калі цела чалавека на кладах, а непрыкаяная душа паміж небам і зямлёй, то яна самасілам цягне да сябе любых з'яўных сярод магілаў родзічаў памерлых, уцягвае ў магілы жывых. Нездарма самазагубцаў, іхняга радства інстынктыўна апасаюцца нармальныя.*

*Палічыў абавязкам напісаць, пра што вы здагадваліся і не здагадваліся, пра што па маладосці не задумваліся. Выратуе вас дадзенае пісьмо, выратуе. Галовы ў вас і вашай мамы, маркуючы па пераказанаму, мудрыя, а сэрцы добрыя.*

*Будзь, Марыйка, мужнай. Бойся заранняга сыходу ў неаб'ёмнасць, яе ў цябе Там не будзе, нічога не стане, адны стогны, стогны, стогны.*

*З паважэннем - А.Б.*

*P.S. Як-небудзь пасля выкажу поўнасцю за што найлепш ацэньваецца чалавек на першым перакрыжаванні. Учытвайцеся ў радкі, думайце. Другім уведы пісьма перадавайце. Бойцеся парушыць законы сусветнасці. А.Б.*





Ліст страсянуў лабарантку. Прыляцела да маці, знячэўна ўбачыла такі ж у яе на стале. Сходу ацаніла стан дарагой матулі.

- Яшчэ адзін экстрасэнс знайшоўся, - словы ў маладухі вырваліся хуткія, неабдуманыя. Асуджае Аляксея Бялько і зварачанцаў да яго.

- Не глядзі, хто сказаў, думай, што сказаў. - Маці ўглядаецца ў дачку, асцярожна ўкладвае пісьмо ў гарсэцік. - Баяўся разумны доктар, атрымаеш яго, вось так хуценька ацэніш, не падумаеш, выкінеш. Таму і мне прыслаў.

Маці выслухоўвае пра сувязь Антаніны Макарэні і Рамана Кавалёва з слуцкім доктарам, прызнаецца пра нядаўні візіт у школу, размову там з Антанінай Макарэняй.

- Колькі ў нашай вёсцы самагубцаў? - з ціхенькім прыдыхам пытае малодшую дачку сялянка. Адказу не чуе. - А ў суседніх? Ніводнага. У райцэнтры да Чарнобыльства таксама ні аднаго.

Жанчыны абмяркоўваюць дэталі рэзкага пісьма, выдзяляюць асобныя. Народ беларускі баіцца граху. Адвечная, затысячагадовая традыцыя не дазваляе славяніну, як і большасці народаў свету, хаваць самагубца на кладах. Такіх не адпяваюць святары. Самагубны адчаюга не проста труновіць сябе - навечна ганьбіць крэўных, брудніць сваякоў.

Большасць напісанага для іх навізна. Хочуць не згадзіцца, пакрытыкаваць - не могуць. Штосьці вострае пранізвае істоты абедзвюх. Жылі працавітыя добра, ясна, чыста - і ў цемрыве. Адчуваная ўсім жывым ісціна ў іх не была так цвёрда выфармуляванай.

- Дачушка, памятаеш хто ў нашай вёсцы і суседніх памёр пазалетась? Не, і я не памятаю. - Хрысціцца на абразы, уздыхае, маўчыць. - А цябе будуць памятаць. Усе. І асуджаць. Праклінацьмуць. Як усіх самазабойных вырадкаў.

Старэйшая паспешна хрысціцца, абедзве застылі.

- Мне табе цяжка сёння гаварыць. Сцёпку з быхаўскіх Абідавічаў павезлі на крэмацыю ў Мінск, бо ў сваёй вёсцы на кладах вяскоўцы не далі пахаваць, і ў Быхаве не дазволілі. Ва ўзбочнай канаве бацькі не захацелі. Ні адна рэлігія самагубцаў не ўхваляе.

Сто разоў усталяванае ў вёсцы імгненіць у галовах маці і дачкі, трывалей асялілася ў мазгах. Не заўважаюць, што ўголас паўтараюць вычытанае з ліста.

- Пра такое я не думала, - упершыню за доўгі цяжкі месяц перамоўчваняў Марыя Петрачэнка падтульваецца да маці, вінавата вышэптвае словы падзякі і выбачэння. - У вырай не палячу.

- Ведаю, дачушка, ты ў мяне разумная. Ні ў які вырай заранна не паляціш.

Дачка прысаджваецца на ўслон, разам з маці хуценька пачынае лушчыць перасохлыя струкі пасолі. Жанкі з увішнай суладнасцю заканчваюць адну з чарговых восеньскіх спраў, прыязнічаюць у словах, усмешках, жэстах. Пра крок у Тагасвецце не думаюць, як і большасць здаровых людзей. Самазабойства - грэх апраметны, яго здзяйсняюць толькі ненармальныя.

# МІФ ТУТЭЙШАСЦІ І ЯГО СУВЯЗЬ З БЕЛАРУСІЗАЦЫЯЙ І РУСІФІКАЦЫЯЙ

Сярод мноства міфаў, якія жывуць у свядомасці нашых людзей, значнае месца займае міф Тутэйшасці. Ён сцвярджае, што наш народ быў настолькі цёмным і забітым у 19 стагоддзі, што нават не ведаў, як ён называецца. На пытанне мужыку да якога народу ён сябе адносіць, хто ён па нацыянальнасці, той быццам бы адказваў: "Я мясцовы" (пабеларуску "тутэйшый"). А калі тут яшчэ ўспомніць, што згодна з марксізмам, нацыі паўсталі толькі з прыходам капіталізму, а капіталізму на нашых землях наогул раней не было, то атрымліваецца, што наш народ ніколі не быў нацыяй; была нейкая маса забітага і цёмнага насельніцтва.

Давайце разважаць лагічна, на прыкладах, бо яшчэ вялікі Ньютан неяк сказаў, што Прыклады важней, за Правілы. Уявім выспу, на якой жыве племя людзей, на выспе ёсць расліны, але няма ані адной жывой істоты акрамя людзей. Тады на пытанне этнографа, як называецца іх племя, людзі проста не зразумеюць, пра што іх пытаюцца. Цяпер уявім, што на выспе акрамя людзей жывуць жукі, матылі, папугаі, малпы і г.д., але няма ані аднаго іншага племені людзей. Тады на пытанне этнографа, хутчэй за ўсё, ён пачуе ў адказ - мы людзі. Калі ж на выспе жыве яшчэ адно племя, то на пытанне этнографа яму абавязкова назавуць назву іх племені. Але яно не можа быць "мы мясцовыя", таму што "мясцовымі" з'яўляецца і іншае племя, з якім яны напэўна на той жа мясцовасці ваююць за нейкія лужкі, лясы, пагоркі і ручайкі дзе яны таксама хочуць біць звера і лавіць рыбу.

Мы жывём у цэнтры Еўропы, і ў 18 і 19 стагоддзях, праз нас каціліся шматлікія войны, і нашыя людзі бачылі досыць іншых народаў і нацыянальнасцяў, пры гэтым яны называліся проста па імя арміі дзяржавы адкуль яны прыйшлі. Ці маглі ў гэтым выпадку нашы людзі не ведаць, што іх краіна называецца Літвой і таму яны ліцвіны? Зразумела, НЕ. Нашые сяляне, калі яны наведвалі 1-2 класы рускай ці польскай школы таксама ведалі пра бліжэйшыя краіны і народы. Гэта ім паведамлялася, акрамя арыфметыкі і пісьма, на ўроках геаграфіі. Калі ж сяляне не хадзілі ў школу, ці сядзелі з-за інваліднасці бязвыезна дома, то яны даведваліся, як называецца іх народ ад аднавяскоўцаў якія хадзілі ў школу, якія ўдзельнічалі ў войнах, былі ў палоне, хадзілі ў іншыя краі на заробкі, наведвалі кірмашы, размаўлялі са шляхтай, габрэямі і валацугамі, якія маталіся па свеце ў пошуках лепшага жыцця. Таму меркаванне аб тым, што наш просты народ быў насто-лькі цёмны, што нават не ведаў, як ён называецца, трэба аднесці да разраду міфаў, г.зн. ўкара-ненне ў свядомасці людзей штучнага падману.

Яго крыніцай былі расейскія этнографы, якія ў канцы 19-га стагоддзя пачалі наязджаць у наш край і вывучаць наш народ. Да канца 19 ст. Расейская Імперыя набыла канчатковыя свае памеры, і ў рускіх паўстала праблема аб культурнай перапрацоўцы заваяваных народаў. Апраўданнем русіфікацыі, за рэдкім выключэннем занялiся, у тым ліку і нават такія буйныя пісьменнікі як Л. Талстой і Ф. Дастаеўскі. Першымі русіфікаваць павінны былі нас і ўкраінцаў, а калі хопіць сіл, то і палякаў. Этнографы (свядома ці несвядома) пакліканы былі даказаць што наш народ гэта тыя ж рускія толькі сапсаваныя каталіцызмам і палякамі, і што яны гэтымі палякамі даведзены да такога быдлячага стану, што нават не ведаюць, хто яны. Да этнографаў, таго ж Я. Карскага, у нашага народа цікавіліся хто яны (ці, дакладней, хто ён) толькі жандары і казакі, якія вылоўлівалі паўстанцаў 1863 года, і якія ўсякага, хто не называў сябе рускім (дакладней, па веры праваслаўным), тут жа пачыналі падазраваць у дапамозе паўстанцам і цягнулі ў кутузку для высвятлення асобы і допыту. Каб выбрацца з гэтага непрыемнага становішча (ані палякам, ані рускім нашыя сяляне сябе не адчувалі, а ліцвінам назвацца было таксама небяспечна, як і палякам), каб хутчэй адчапіліся, сяляне павінны былі прымаць прыдуркаваты выгляд і адказваць: "Мы тутэйшыя, паночак (пан ахфіцэр), мы мясцовыя". Тое ж яны адказвалі, відаць, і Карскаму, які праводзіў свае апытанні.

Я не буду вышукваць цытаты ў пацверджанне сваёй версіі. Цытат "За" і Супраць", як заўсёды, можна прывесці дастаткова. Я скарыстаюся парадай прагматыкаў - ва ўсіх сумніўных выпадках, а згодна з постмадэрнізмам усе выпадкі сумніўныя, бо жорстка зафіксаванай рэчаіснасці па іх паняццях няма - я буду глядзець - падымаюць, або прыніжаюць зробленыя сцвярджэнні самаацэнку нашага народа. Сцвярджэнне, што наш люд быў такі цёмны, што нават не ведаў, да якога народу ён належыць, адназначна да гэтага часу працуе на прыніжэнне самаацэнкі нашых людзей.

Але такі погляд вельмі спадабаўся тым, хто праводзіў русіфікацыю, ён вельмі палягчаў яе. Маўляў, народ не ведае нават, хто ён, а мы яму нагадваем, нясем яму святло асветы, даём яму ўпершыню ў гісторыі слаўнае імя "рускага" (праўда, не "чыстага", а толькі "белага").

Гэты міф, дзякуючы намаганням навукоўцаў заходнерусістаў, быў прыняты і чэсткай нашай інтэлігенцыі ў пачатку 20-га стагоддзя. Гэта, так званыя, адраджэнцы. Іх можна зразумець - калі яны пагадзіліся з новай назвай нашага народа - беларусы, то ўсялякую памяць пра Літву і ліцвінаў трэба было забыць; быць адначасова і беларусам, і ліцвінам немагчыма, асабліва, калі ты заняты адукацыяй людзей, гуманітарнай працай. Ці трэба нагадваць, што наогул тым, хто называўся палякам ці ліцвінам царскія ўлады заўсёды чынілі ўсялякія перашкоды ў працы і ў атрыманні адукацыі, а пасля 1917 г. рускімі бальшавікамі яны знішчаліся ў першую чаргу.

Нагадаем таксама, што ў канцы 19 ст. і пачатку 20 ст. не толькі ў Расіі, але і ва ўсім Свеце, былі вельмі распаўсюджаныя ідэі сацыялізму, паводле якіх нацыянальнае - гэта другаснае, гэта надбудова над эканамічным. Нашыя новыя беларускіе пісьменнікі і паэты не маглі не адчуць гэтага ўплыву і натуральна пачалі апяваць мужыкоў, іх побыт, іх гнілыя хаткі і выкрываць паноў-эксплуататараў. Еўрапейскія народы да гэтага часу ўжо ўмацаваліся як нацыі; палякі і прыбалты пасля некаторых ваганняў аддалі перавагу нацыянальнаму перад сацыяльным, а мы і ўкраінцы так і не вызначыліся, што важнейшае. Назва ўкраінцаў, якую ім далі рускія - ***малароссы*** была відавочна зневажальнай і яны адмовіліся ад яе адразу. Наша ж назва насіла замаскіраваны зневажальны характар - ***белыя рускія*** (здавалася б, нічога дрэннага), і трэба было быць вельмі пранікліваым, каб убачыць, што з ім у нашай культуры будуць вялікія праблемы. (Падзеі апошніх 20 гадоў пацвярджаюць гэта). Назва ***беларусы*** кажа аб вытворнасці нашага народа ад рускіх, прышчапляе людзям комплекс непаўнавартаснасці. Тады пачынае працаваць ахоўны механізм ад прыніжэння, які выяўляецца фразай: "Рускі- беларускі - якая розніца?". Гэты механізм не змог закрыць нацыянальнае ў інтэлігенцыі, але просты народ яго (нацыянальнае) губляў, для яго закрывалася веданне аб слаўным мінулым нашага народа як Літвы і ліцвінаў, а толькі на Гісторыі і выхоўваецца самапавага і патрыятызм людзей. Цяпер трэба было зусім трохі высілкаў з боку Масквы, каб руская культура перамагла нашу. Прыляпіць жа яе як-небудзь збоку да рускай, чым займаліся ўсё 20 стагоддзе, не ўдавалася, бо войны культур не ведаюць перамір'я і літасці. На эміграцыі пасля вайны 41-45 г. некаторыя нашыя палітыкі былі настолькі супраць назвы ***беларусы***, што адбываліся нават бойкі "беларусаў" з "крывічамі".

Хачу узгадаць міф Тутэйшасці ў сувязі з п'есай Я. Купалы пад аднайменнай назвай. Купала таксама не ўспамінае пра сапраўднае імя нашага народа - ***ліцвіны***; ён высмейвае "польку" Насту Пабягунскую, "праўдзівага рускага" чалавека Мікіту Зноска і ўсіх астатніх, хто не згаджаўся быць беларусам. Сваіх жа станоўчых герояў Янку і Аленку ён прымушае прасоўваць маскоўскі праект называння нашага краю Беларуссю, а народу - беларусамі. Але памяць пра тое, што мы ліцвіны, у народзе заставалася. Канстанцыя Скірмунт ў 1910 годзе, у час, здавалася б, пераможнага шэсця беларускасці ў нашым грамадстве, (а на самай справе толькі ў частцы інтэлігенцыі і зусім не сярод шляхты) адчайна "крыкнула": *"Ліцвінкай і толькі ліцвінкай я з Божай ласкі была, ёсць і да апошняга дыхання буду"*. У канцы п'есы Янка і Аленка бягуць у вёску, дзе, як яны думаюць, жывуць несапсаваныя людзі, якім можна прышчапіць беларускасць. Але камуністы даволі хутка дабраліся і да вёскі і да пачатку вайны 41-45 гадоў ачысцілі і вёскі ад такіх наіўных Янкаў і Аленак; іх разам з нацыянальна арыентаванымі беларусамі-камуністамі ў канцы 30-х гадоў проста перасаджалі ці знішчылі. Знішчаць нашых нацыяналістаў пад шумок вайны працягвалі, як вядома, і чырвоныя ("беларускія") партызаны. Да 70-80 гадоў мінулага стагоддзя беларускасць ледзь тлела ў вузкіх колах гуманітарнай інтэлігенцыі. Н. Хрушчоў на прыступках АН БССР амаль з пагрозай патрабаваў ад вучоных пераходу на рускую мову (каб нам першымі пабудаваць камунізм).

Д'ябальскі працэс самазнішчэння нашага народа дзякуючы амаль поўнай русіфікацыі і панаванню рускай культуры спарадзіў людзей гатовых адмовіцца не толькі ад сваёй мовы і культуры, але нават і ад імя беларуса. (Нагадаю крылатую фразу нашага кіраўніка, што мы і рускія адзіны народ). Такія людзі занялі ўсе галоўныя пасады ў краіне; цяпер норавы памякчэлі; цяпер адпала неабходнасць завозіць катаў ОГПУ-НКВД-КГБ з Расіі, нацыяналістаў цяпер проста пазбаўлялі (і пазбаўляюць) працы і выганяюць у эміграцыю на Захад.

Цікава заўважыць, што ў 80-я гады мінулага стагоддзя падчас адлігі і галоснасці, якія ахапілі ўвесь Савецкі Саюз, у нас з'явілася аб'яднанне маладых літаратараў пад назвай Тутэйшыя. З чаго б раптам? Здавалася б, пра паняцце тутэйшасці як сімвалу адсталасці, цемры і глупства можна было б і забыць? Але маладыя людзі свядома ці несвядома паняцце тутэйшасці супрацьпаставілі паняццю беларускасці. Яны як бы казалі - лепш быць тутэйшымі, г.зн. ніякімі, чым быць беларусам. Калі хто ведае (у тым ліку яшчэ жывыя чальцы гэтага аб'яднання), як можна патлумачыць гэты феномен, то паведамце праз газету.

"Тутэйшасць" набыла нават права навуковага тэрміну. Яго ўжывае В. Булгакаў ў сваёй кнізе "Гісторыя беларускага нацыяналізму". Яго выкарыстоўваюць палітолагі і сацыёлагі да гэтага часу. Напрыклад, палітолаг Ю. Чавусаў лічыць тутэйшасць адным з трох беларускіх нацыяналізмаў. (Гл. мат. Навукова-практычнай канферэнцыі "Праблемы сучаснай беларускай ідэалогіі", Рыга, 2012).

Інтэлігентам мінулага стагоддзя, пры панаванні палітэканоміі К. Маркса, якая тлумачыла капіталізм, сацыялізм, грамадскія сілы, культуру, была базай для ідэалогій левых і цэнтрысцкай партый, не ведаць пра сілу сімвалічнага і знакавага было даравальна. Але не ведаць гэтага цяпер, калі палітэканомія Маркса страціла сваю тлумачальную і творчую сілу, калі рухальныя сілы грамадства цалкам змяніліся, - не ведаць аб сіле сімвалічнага, знакавага, лічу, недаравальна. Назва краіны і народа ў нашым канкрэтным выпадку гэта і ёсць Сімвалічнае і Знакавае.

У наш час краху беларускасці, і перамогі русіфікацыі, лічу мэтазгодным выкрыць гэты міф і падняць пытанне аб вяртанні нашаму народу яго спрадвечнага імя - ліцвіны. Міф Тутэйшасці, які расчысціў глебу для перайменавання нас з ліцвінаў у беларусаў, патрабуе абвяржэння. Адсутнасць Нацыянальнага моцна аслабляе наш народ - і ўладу і апазіцыю. Што да змены назвы, то нагадаю, што сучасныя грамадзяне Летувы, як вядома, называюць сябе летувісамі. Тыя, хто за вяртанне нам ранейшай назвы ***ліцвіны***, але не хоча сутыкнення з летувісамі, вялікіх патрасенняў ў гістарыяграфіі і геапалітыцы, могуць выказацца за назву нашай краіны Літварусь (гэта скарочаная назва краіны ў мінулым - Літоўскай Русі), мужчыны пры гэтым будуць называцца літварусамі, а жанчыны ліцвінкамі.

***Павел Біч,***
*канд. тэхн. навук,*
*пенсіянер.*

# У "Напрадвесні" - голас Святланы Багданкевіч

Урэшце чытаю вершы Святланы Багданкевіч у яе асабістай кнізе "Напрадвесні". І вось чаму кніга так называецца: "Па вясне, як па далёкім, незямным сумую цудзе, але бачу пільным вокам: штосьці спее, штосьці будзе!". Такая паэтка ўзлетуцененая ў дзявяноста другім годзе, у часе, калі адчувалася, што "ажывае прарастанне і варушыцца пад снегам". Узбуджаецца надзея: *"Божыя пасевы ўзыйдуць новай, свежаю травою"*. Але ў дзвяноста чацвёртым, калі "ноч дзіравай цемрай белы свет зацьміла", паэтка хвалюецца:

*Не сплю, а думаю, і сэрцам спазнаю,*
*Як час глыбінны дыхае прадвеснем...*
*За нас усіх я ўночы слёзы лью*
*І мучуся трывогай: ці ўваскрэснем?*

Так, душа ў вершах Святланы Багданкевіч ясніцца прыналежнасцю да роднай бурлівай плыні, якая імкне ў гэты час у незалежнасць, дэмакратычнасць, беларускасць. Абуджаны ейны дух выліваецца ў слова Любові:

*Адкажы Кастусю на ягоны пароль:*
*Каго любіш? -"Люблю Беларусь!"*
*- То ўзаемна"*

І зацвярджаецца радкамі:

*І з'явіцца вера -*
*Адзінаю цвердзю,*
*Учэпістым вервем.*
*Ратуймася ж вераю!*

Вераю ў Свабоду. Таму што:

*...Тут без Свабоды*
*не маеніхто і Айчыны.*
*Не ад гэтага свету,*
*ты ўсякае людскасці чыннік.*
*Каб не ты, о, Свабода,*
*не меў бы Ўсявышні прычыны*
*Гэты свет выбудоўваць*
*і вечны заводзіць гадзіннік!*

Дык для чаго мы? Ці не для дзеі?

*Мо ўсклалі ўжо на Бога ўсе надзеі?*
*Ды не малітвы просіць Ён, а дзеі,*
*Не слёз, не нараканняў - барацьбы!*
*І хоць на ўсё Яго святая воля,*
*Ды, як зямля не родзіць без сяўбы, .*
*Не выспее без чыну й наша доля.*

А "гэтак цёмна на Белай Русі!.. І згушчаецца морак ілжывы...", усюды "усім - па мове, ну а ў нас - дзве мовы. Дзве маткі". Як "з той прыказкі, цялятка, мы хочам схітраваць - смактаць дзве маткі... Мы хворыя на неваладанне роднай мовай", на "адрачэнне".

*Гэткі звычай нялюдскі, нянаскі...*
*Штось накшталт адмаўлення*
*Ад Божае ласкі.*

Люстрыцца асоба і прыцягвае ўнутраным святлом. Чытаю вершы з "Васьміradкоўяў" дзвяноста другога году. Было ж адчуванне: "Прыляцеў гэты конь, прыскакаў гэты вой з тых забытых вякоў, як ішоў ён у бой за Айчыну сваю і за гонар свой". У дзевяноста пятым паэтка вымушана сказаць: "Як быць з людзьмі, як жыць сярод людзей у патаемнай змушанай нязгодзе?.." І ўжо ў адзінаццатым здзівіцца сэрцам:

*Суды ў краіне абсурду:*
*Сляпыя судзяць відушчых,*
*Ілжывыя - шчырых, сумленных,*
*Мёртвыя судзяць жывых.*

Святлана Багданкевіч назвала "Напрадвеснем" гісторыю сваіх мар, хваляванняў, імкненняў, роздумаў, змаганняў, расчараванняў у апошнім дваццацігоддзі, калі расла і гаварыла душа грамадзянкі і з'явілася вера. Паэтка асэнсавала, "што за праявы" такія адбываюцца. На гэтую тэму вершы: "Калектывізм па-нашаму", "Братэрства" і іншыя, дзе працуе думка над пытаннем, ці мае права на існаванне "пакута прыкрая такая, як расчараванне"? І, безумоўна, зразумела, што "прыходзіць уцяміць нарэшце нагода: самае дарагое ў чалавека - гэта Свабода, бо за яе аддае ён жыццё".

І столькі пакут адразу. Далей самадакорліва кажа:

*Я ўжо тут*
*перад усімі звінавацілася...*
*Не дакарае мяне толькі Бог,*
*Бо Ён увогуле нікога не дакарае.*
*Адно кажа: вер і ты будзеш*
*са мной у вечнасці,*
*А суда не будзе.*

Вершы ўсёй кнігі - водгукі на праявы і з'явы ў нашым свеце - прайшлі думна перад маімі вачыма. І пераклады з польскай мовы. Тут Святланіны думкі пераклікаюцца з думкамі польскіх паэтаў.

Ёсць у кнізе промняў, чыста чалавечых думак з філасофіі чулай душы аўтара, з якой і выцякае патрыятызм. Звініць голас відушчай чалавечай душы.

*Такая безнадзейнасць, хоць памры!*
*Адно ратуе, што яшчэ на свеце*
*Ёсць дрэвы, кветкі, птушкі і звяры.*

І тут, як ніколі, патрэбна Слова. Гучыць Яго ўганараванне.

*Падараванае Паэту*
*Слова ад Духа Святога*
*Дзеля ўслаўлення свету.*
*Дзеля ўслаўлення імгнення...*

Яно сёння, як трывожны звон пра лятучасць жыцця, знікнення дня:

*Кажа дзень, апрануўшыся ў цень...*
*Пакідаю цябе назаўсёды.*
*Заўтра будзе табе новы дзень.*

У "Порах года" яе выяўляльную душу "у край замглёны вязе расквечаны вазок", "на знічках варожыць бяссонне", ды й "неба губляе нас з свайго поля зроку". І вось "б'е крыламі у шкло" завіруха. "Бязлюдная і беспадзейная ў вокнах нядзелька завейная". І "вылюшча гукамі словы знямелыя" на ўроках музыкі, "і ўваскрэсне ў сёняшняй цішы ў вечнасць пераліта імгненне".

У зборніку - разнастайнасць свету лірычнага героя, паэтычных прыёмаў, формаў, багацце мастацкіх сродкаў. Мова празрыстая, думнасць прасторная. У радках і строфах ураўнаважаны думка і пачуццё. Перамагае разважлівасць, хоць і палыхнуў адчай у вершы "Што тут ратуе?". Кожны адпрацаваны радок гаворыць пра выразны інтэлект інтэлегентнай, узіральнай і відушчай, знешне стрыманай ў пачуццях асобы аўтара. Я разумею, чаму да гэтай пары ў яе толькі адна кніга. Святлана Багданкевіч хацела, каб чытач сустрэў яе бездакорна.

**Марыя Баравік.**

# "Піўны летапіс у цэнтры Еўропы" або Перамагай па-беларуску

***Вызначаны пераможцы конкурсу пра традыцыі беларускага піваварства***

На конкурс "Піўны летапіс у цэнтры Еўропы", які арганізавала "Лідскае піва", даслалі больш за 20 прац. **Палова з іх напісана на беларускай мове** - гэты факт вельмі здзівіў арганізатараў і, у прыватнасці, генеральнага дырэктара завода "Лідскае піва" Аўдрыюса Мікшыса.

Па ўмовах конкурсу, працы на тэму піўной культуры Беларусі XIII - сярэдзіны XX стагоддзя маглі дасылаць беларускія студэнты 1-6 курсаў любой формы навучання і любых спецыяльнасцяў. Як кажуць самі арганізатары, перш яны атрымлівалі працы толькі ад студэнтаў гістарычных факультэтаў, а пад апошні дзень прыняцця заявак пасыпаліся працы і ад будучых юрыстаў і праграмістаў.

Пераможца Кірыла Сынкоў (выйграў 18 мільёнаў рублёў) вучыцца на тэлеаператара ў Акадэміі мастацтваў. На конкурс ён даслаў прэзентацыю з карыкатурамі і інтэрвію з "апошнім піваварам" дзедам Міхасём, жыхаром беларускай вёскі, які ў хатніх умовах варыць піва, як і яго продкі.

- Мая праца была прысвечана традыцыйнаму піваварству Беларусі і ўспрыманню піва ў народнай культуры. Я імкнуўся паказаць народнасць гэтага напою, не выторчую гісторыю піваварства, а хатнюю, - распавёў нам Кірыла. - Праца заняла каля трох тыдняў. Інфармацыю шукаў у Нацыянальнай бібліятэцы, упор рабіў на відэа. Дзеда Міхася Шукана я не шукаў, ён сам знайшоўся. Я ведаў адну бабулю, якая ў суседняй вёсцы таксама варыла піва. У Бярэзінскім райвыканкаме мне



сказалі, што яна памерла, і далі нумар тэлефону сельскай школы. Там мне і распавялі пра "апошняга півавара". Перш я зрабіў толькі відэа, а калі перачытаў умовы, зразумеў, што трэба рабіць прэзентацыю. Звярнуўся па дапамогу да сяброў па акадэміі. Аддаў ім прыказкі і папрасіў намаляваць карыкатуры да іх. Гэта перамога не толькі мая, а ўсёй каманды. Грошы падзелім.

Па 6 млн рублёў выйгралі студэнт Гомельскага ўніверсітэта ім. Ф. Скарыны Ян Юрыс за працу "Як піва Слонім ратавала" і студэнт Гарадзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы Мацвей Шаўчэнка за працу "Човен, бочак піва да вяселля Ягайлава".

Унікальныя факты, якія "раскапалі" ўдзельнікі конкурсу:

*Паводле сямейных легенд канкурсантаў, па адным з рэцэптаў у піва дадавалі траву дзівасіл, па іншым - парасткі маладой хвоі.*

*Піўныя бутэлькі канца XIX - пачатку XX стагоддзя з Ліды, Гародні, Варшавы і Лондана, знойдзеныя*



















*на раскопках у Гародні, захоўваюцца ў гарадзенскай ВНУ.*

*У 1673 годзе ў Слуцку была выдадзена кніга Яна Германа, адна з частак якой - "Пра варэнне піва".*

*У XVIII стагоддзі на Палессі ў сялян існавала традыцыя, па якой зяць на працягу месяца пасля вяселля мог піць піва за кошт цесця.*

Пра існаванне багатых традыцый у беларускай культуры, злучаных з півам, кажуць наступныя крылатыя выразы: *"Не ведаць піва - не ведаць шчасця", "Не хвалі піва разліўшы, а хвалі піва распіўшы", "То не мудрагеліста, што піва зварана, то мудрагеліста, што не выпіта", "З кім піва не зварыш, той табе не таварыш", "У Зміцераў дзень і верабей пад кустом піва варыць".*

Як бачна беларуская мова дапамагла Кірылу перамагчы ў конкурсе, а ў колькіх конкурсах перамог бы спадар Мікшыс з "Лідскім півам", каб зразумеў, што афармляць прадукцыю завода вельмі выгадна менавіта па-беларуску, бо беларускае і лідскае - значыць самае лепшае, а гэта павінна быць відно здалёк і заўсёды.

Паводле **Кацярыны Кузьміч**, *dengi.onliner.by.*


*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Юля Карчагіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10.12.2012 г. у 10.00. Замова № 2110.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 4450 руб., 3 мес.- 13350 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.